Рада Культуры Беларускіх Студэнтаў Бюлетэнь № 6 Варшава 1987 г.

# сустрэчы

ЧАСОПІС БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ У ПОЛЬШЧЫ




ЛЁНІК

**ініка Ф. Сіўко і камента-
ол закона», «ЛіМ», 19 ве-
эсць чытацкіх водгукаў.**

## прэстыж прадмета

эынй нашага народа, калі
арускаму чалавеку ўкладалі
ушы, што беларуская куль-
а, звычаі, мова — гэта што-
і непаўнацэннае, мужычае,
імітыўнае.

еларускія педагагічныя ін-
туты, універсітэты павінны
аць веды па беларускай мо-
настаўнікам усіх спецыяль-
ней. Бо — што ж атрымлі-
цца? У школе, апрача на-
ўніка беларускай мовы, ніх-
не ўмее запоўніць белару-

# „ЗАКОН І ВАКОЛ ЗАКОНА"

## «Гаворка—адзежа душы»

За апошнія дзесяцігоддзі вакол школьнай моўнай праблемы вырас капітальны мур мяшчанскай абыякавасці. Колькі разоў даводзілася чуць: «Я белорус, люблю Белоруссию, ее историю и культуру, но без языка». Колькі разоў паўтарыў скептык сваё: «Всё равно она (мова) отомрет». Заканамерна, што дзеці гэтага «радетеля ни за что» ўжо не пачуваюцца ў поўнай меры беларусамі і духоўна паўнацэннымі на гэтай зямлі людзьмі.

«У нас нет ничего более рус-

беларуская мова, пакуль жыве мова — жыве Беларусь!» — гэта словы Янкі Купалы, падпісаныя 1942 годам.

Вобраз Бацькаўшчыны, Айчыны, Радзімы спрадвеку асацыіраваўся ў людзей з вобразам маці таму, што маці нарадзіла, «навучыла» роднаму слову. А калі маці навучыла «сродку зносін», тады яна — няхай самы дарагі вам чалавек, але не радзіма. І вы рызыкуеце страціць астатнія рэшткі грамадзянскасці, бо нікуды вас Ра-

нічога свайго ў інтэрнацыянал не прынясе. Хіба толькі возьме... Зноў жа мяшчанская тактыка — брацьі Так што гутарка ідзе пра будучыню нашага народа, нашых дзяцей. Асабіста ў мяне расце дачка і мяне зусім не вабіць лёс тых бацькоў-пакутнікаў, якія дзеля роднае мовы возяць сваіх дзетак хто ў вёску, а хто на другі канец горада, нібы дзеля нейкае экзотыкі.

У Праграме КПСС ясна пастаўлена задача выхавання гарманічна развітой асобы. Можа, нехта і возьмецца даводзіць, што вырачэнне нацыя-

Ад восені мінулага году на старонках мінскага тыднёвіка "Літаратура і мастацтва" вядзецца дыскусія аб цяжкім становішчы беларускай мовы ў БССР. Выклікаў яе ліст віцебскага настаўніка Ф.Сіўко "Прашу вызваліць", надрукаваны 19 верасня 1986 г. Акрамя самога ліста, у тым жа вераснёўскім нумары быў змешчаны каментарый пісьменніка Кастуся Тарасава "Закон і вакол закона", які даў загаловак цэлай дыскусіі. У сапраўднасці, гэта нават не дыскусія, таму што ўсе аўтары лістаў і артыкулаў выказвалі згодны погляд: становішча беларускай мовы /і то не толькі ў школах, але ва ўсіх аспектах жыцця/ дрэннае і існуе неабходнасць змен.

Адной з прычын такой сітуацыі з'яўляецца абыякавасць бацькоў да вывучання роднай мовы іх дзяцьмі. Аказваецца, проста, што беларусы не перайшлі пэўнага этапа ў працэсе фарміравання сучаснай нацыі, этапа, які канкрэтна ў нашым выпадку займеў назоў "тутэйшасці". Відаць, не досыць выбрацца з палескіх балот і пераехаць у двухпакаёвую кватэру ў Мінску, каб стаць адразу культурным чалавекам. Бо, аб чым жа сведчыць гэтае заўзятае адварочванне ад роднай мовы - "дзеравенскай" - як не аб халопскасці гэтых новых жыхароў беларускіх гарадоў. А іхнія намаганні адлучыць дзяцей ад усяго роднага, паводле іх вясковага, ці ж гэта не вечнае жаданне мужыка "панам стаць".

І пішуць такія "тутэйшыя" заявы аб вызваленні іх дзяцей ад вывучання беларускай мовы, знаходзячы вельмі арыгінальныя аргументы - дзіця не можа вывучаць роднай мовы, бо: у яго слабое здароўе, вывучае некалькі замежніх моў, іграе на дудцы, занімаецца спортам і г.д. А што дзіўнейшае, такія недарэчныя тлумачэнні з'яўляюцца дастатковымі асветным уладам, каб "вызваліць" дзяцей ад лішняй перагрузкі. Паўстае пытанне, на якой падставе? Аказваецца, такога распараджэння няма, але чыноўнікі свабодна інтэрпрэтуюць дваццаты артыкул чацвёртага раздзела "Асноў заканадаўства СССР і саюзных рэспублік аб народнай асвеце", зацверджаных Вярхоўным Саветам СССР 19 ліпеня 1973 г., у якім гаворыцца: "Апроч мовы, на якой выкладаюцца прадметы, вучні па жаданні могуць вывучаць мову іншага народа СССР.". У практыцы гэта абазначае, што калі навучаецца ўсе прадметы па-расейску /а такая сітуацыя ва ўсіх гарадскіх школах БССР/, дык вучні не жадаючыя вывучаць беларускай мовы, не абавязаны гэтага рабіць.

У сталічным Мінску II % вучняў зусім не вывучае беларускай мовы,і то не дзеці вайскоўцаў ды іншых людзей,якіх праца прымушае да частых пераездаў з рэспублікі ў рэспубліку,як гаворыцца,але якраз тутэйшых беларусаў - у большасці г.зв. інтэлігентаў.Астатнія вывучаюць родную мову з трэцяга класа,а колькасць гадзін прысвечаных гэтаму прадмету роўная колькасці гадзін,якія аддаюцца вывучэнню замежнай мовы.Да таго ж не ўсе настаўнікі ў дастатковай ступені валодаюць мовай,якую навучаюць.А потым выходзяць з такіх школ "непісьменныя", якія патрапляць на вуліцы імя першага ўсходнеславянскага друкара, у яго родным Полацку напісаць:"Френиск Скорина - доктор исскуствоведения".Праўда,у Мінску адкрылі адну школу з беларускай мовай навучання і цяпер у ёй усе прадметы па-беларуску вывучае каля 100 дзяцей першых чатырох класаў.Калі заўважыць,што ў Мінску больш чым 100 тысяч вучняў,дык тая маленькая групка,якая яшчэ напатыкае самыя розныя непрыемнасці /хтосьці не прывозіць на час кніжак,не хапае навуковых дапаможнікаў/,гіне ў рускамоўным моры сваіх аднагодкаў.Ёсць у сталіцы Савецкай Беларусі таксама адзін дзіцячы сад,у якім дзеці маюць кантакт з беларускай мовай,але знаходзіцца ён вельмі далёка ад беларускай школы,а як адказала Міністэрства асветы загадчыцы гэтага сада,ніякай беларускай школы ў іх раёне ствараць не плануецца.Дзе ж тады маюць вучыцца тыя дзеці,якім прыходзіць час пакідаць дзіцячы сад.Аўтарка аднаго з лістаў,надрукаваных у"ЛіМ-е", напісала,што гэты дзіцячы сад існуе толькі дзеля таго,каб маглі ў ім пабываць дэлегацыі з Расеі,Літвы,Украіны.
Лепш крыху выглядзела сітуацыя ў вёсцы.Але і там,настаўнікі,каб зраўняць сваіх вучняў з іх гарадскімі равеснікамі ў шанцах пры паступанні ў Вышэйшыя навучальныя ўстановы,пераходзяць на расейскую мову.Няма ж ва ўсёй Савецкай Беларусі вышэйшай школы,у якую ўступны экзамен можна было б здаваць па-беларуску /апрача філалагічных факультэтаў і некаторых педагагічных інстытутаў/.Гэта якраз і ёсць прычына такіх,а не іншых адносін да мовы.Прывяду фрагмент аднаго з лістаў:"Нізкі прэстыж і функцыянальная звужанасць беларускай мовы не дазваляюць людзям выбіраць беларускую школу для сваіх дзяцей,цікавіцца беларускімі газетамі і кнігамі,гаварыць роднай мовай на сходах.Гэта,у сваю чаргу,дае магчымасць іншаму чыноўніку безапеляцыйна сцвярджаць,што народ сам не хоча беларускай мовы і сваёй чыноўніцкай уладай яшчэ больш звужыць сферы роднай мовы.".
Фрагмент гэты з'яўляецца настолькі песімістычным,што,здаецца,нельга знайсці выхаду з гэтага як бы зачараванага кола.Але выхад,як у кожнай сітуацыі,зразумела,ёсць.Кожны,хто выказваўся на старонках "Літаратуры і мастацтва" быў згодны,што трэба сілаю закона забяспечыць будучыню беларускай мовы ў беларускай жа,а не ў якойсьці іншай,рэспубліцы.Толькі дзяржаўныя законы могуць уратаваць беларускую мову ад заняпаду.
Міністэрства асветы БССР,у адказ на публікацыі "ЛіМ-у",заявіла,што ніякіх асаблівых праблем не існуе,затым не існуе патрэба нічога мяняць.
Нарэшце варта задумацца,ці ўсе тыя публікацыі "Літаратуры і мастацтва" выклікалі якуюсьці шырэйшую дыскусію.Большасць жыхароў рэспублікі не чытае ж беларускіх газет - іх не можна знайсці ні ў школьных,ні ў "дарослых" бібліятэках,хаця ёсць там "Сибирские огни", "Урал","Дон" ды іншыя.Беларускія газеты чытаюць выключна людзі,якія адчуваюць патрэбу гаварыць на роднай мове.Не чытаюць іх напэўна тыя, хто піша заявы аб вызваленні дзяцей ад вывучання беларускай мовы,а якраз у іх адрас накіраваны,перад усім,гэтыя публікацыі.На маю думку,пакуль рускамоўныя газеты рэспублікі не звярнуць увагі на праблему мовы,гэтая справа не знойдзе шырэйшага водгуку.

Мікалай Ваўранюк

# Вера

А.Сцепанюк

/ на сотую гадавіну з дня нараджэння Алеся Гаруна /

Не плач Айчына
вялікі Бог
магіл тваіх
палечыць раны
і зноў на твой
святы парог
прыйдуць Алесі
Цішкі
і
Іваны

А ты як маці
прыймеш іх
і зноў абнімеш
сваім лонам
яны з крывавых
горкіх слёз
дадуць жыццё
тваім загонам

І будзе свята
будзе баль
зноў кліч Пагоні
дзесь над намі
няхай жыве
наш карнавал
наш беларускі
пад сцягамі

Няхай у свет
ляціць прывет
усім народам
у свабодзе
ад шчырай
нашае душы
заўсёды будзем
жыць у згодзе

Айчына маці
яшчэ раз
крыжоў тваіх
праўжыць не хочу
таму з прысягай
на губах
сто раз цалую
твае вочы

# „Устане, як Лазар, з руін забыцця."

Ю.Ляшчынскі

Творчасць ды шматпакутнае жыццё Алеся Гаруна з'ўляецца наогул мала вядомым шырэйшаму кругу чытачоў.І сапраўды,пра гэтага выдатнага паэта,рэвалюцыянера і грамадскага дзеяча адраджэнскай пары мала дагэтуль пісалі даследчыкі беларускай літаратуры.Даволі сціплыя весткі пра яго можна знайсці ў "Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры" з 1969 г.,"Беларускай Савецкай Энцыклапедыі" і "Кароткай Энцыклапедыі БССР".Паводле гэтай апошняй творчасць Алеся Гаруна,пераважна лірычныя вершы,вызначаецца меладыйнасцю,мастацкай дасканаласцю,багаццем рытміка-інтанацыйнага ладу.У "Літаратуры і мастацтве"з 1981 году Уладзімір Казбярук апублікаваў даволі аб'ектыўны і змястоўны артыкул "У бурлівым віры".Аўтар артыкула прыгадвае асноўныя факты з жыцця паэта ды стараецца выясніць некаторыя заблытанасці ягонага складанага лёсу.

Алесь Гарун /сапраўднае прозвішча Аляксандр Прушынскі/ нарадзіўся 27 лютага 1887г.у Мінску,на Багадзельнай вуліцы /сёння Камсамольская/,у сям'і рамесніка.Бацькі яго былі тыповымі прадстаўнікамі тагачасных працоўных беларусаў-католікаў.У пяць гадоў Алесь навучыўся ўжо чытаць.Вучыўся ў рамесніцкім вучылішчы на дрэваапрацоўным аддзяленні,якое закончыў у 1902 годзе.З таго часу працаваў ён у сталярных майстэрнях і мэблявых фабрыках Мінска,аж да 1907 года,г.зн. яго арышту.Увайшоўшы ў мінскую арганізацыю эсэраў вёў шырокую прапаганду сярод моладзі і рабочых,рэдка выпускаючыся на вёску.Пасля

зняволення,найперш у мінскім,а потым у славутым віленскім астрозе на Лукішках,Прушынскі быў засуджаны на катаргу,якую замянілі ссылкай.У Мінск вярнуўся пасля лютаўскай рэвалюцыі ў 1917 годзе,з моцна разбітым здароўем і адразу ж уключыўся ў беларускую грамадскую працу.Браў актыўны ўдзел у З'ездзе народаў Расеі ў Кіеве ды Усерасейскім беларускім з'ездзе бежанцаў у Маскве.Потым кіраваў палітычным аддзелам Вялікай Беларускай Рады.А на першым Усебеларускім кангрэсе ў Мінску /снежань 1917г./ Гарун займае пасаду памочніка старшыні з'езду.У тым жа часе занімаецца журналісцкай дзейнасцю,рэдагуючы газету "Беларускі шлях",ды супрацоўнічае з "Вольнаю Беларуссю". Пры савецкай уладзе займаецца справай дзіцячых прытулкаў,а ў час наступнай акупацыі /польскай/ быў старшынёю Беларускага нацыянальнага камітэта.Потым перайшоў у беларускую вайсковую арганізацыю.Мабыць,спробы супрацоўніцтва з Пілсудскім былі яго памылкай.Ул.Казбярук адзначае,што ў Беларускай вайсковай камісіі было і левае крыло, якое навязала супрацоўніцтва савецкімі ўладамі,з мэтай арганізавання супрацьпольскага падполля.Да гэтага крыла мелі належаць і Гарун, і Рак-Міхайлоўскі.Выказванні Казбярука з'яўляюцца даволі наіўнымі і таму не зусім з імі згаджаюся.
Гарун памёр у Кракаве ў 1920 годзе.
Пісаць па-беларуску пачаў у 1905г.,але першыя яго вершы не захаваліся.Пазнейшыя творы былі друкаваныя ў "Нашай ніве".Іх ён высылаў ужо з Сібіры.Там жа падрыхтаваў да друку свой зборнік "Матчын дар" і паслаў яго восенню 1914г. у Вільню.Аднак пабачыў ён свет аж чатыры гады пазней,у 1918 годзе ў Мінску,як першая кніжка Беларускай Народнай Рэспублікі.
Хутка Гарун звярнуў увагу крытыкі своеасаблівасцю і непаўторнасцю сваіх твораў.Галоўныя прыкметы яго паэзіі,гэта далікатна засмучаны настрой,шчырасць пачуццяў і трагічнасць думак.На першым плане ў яго стаіць заўсёды незвычайная,бязмежная любоў да бацькаўшчыны.Такія вершы мог пісаць паэт толькі на чужыне,сумуючы па родным,ад якога быў так няхабна адарваны.Гэта былі гады сібірскага выгнання, якія Гаруну прынеслі не толькі тугу і адчай,але далі таксама магчымасць адчуваць мацней сэрцам і душою,а затым сталіся штуршком да літаратурнай творчасці.Ужо тады,у 1918 г. Гарун сваімі творамі заслужыў на пачэснае месца ў беларускай літаратуры.Пра ягоны першы зборнік пісалі,нешматлікія тады,літаратурныя крытыкі,ставячы яго нават на другім месцы пасля Купалы.У сваёй "Гісторыі беларускай літаратуры" разглядае творчасць Гаруна Максім Гарэцкі.У канцы дваццатых гадоў літаратурнай спадчынай паэта занялося двух тагачасных выдатных беларускіх крытыкаў А.Бабарэка і А.Барышэўскі.Абодва параўноўваюць творчасць Гаруна з вершамі Максіма Багдановіча і Уладзіміра Дубоўкі. Так Багдановіч як і Гарун пакінулі невялікую па колькасці,але вялікую па якасці сваёй каштоўнасці спадчыну - сцвярджаюць літаратуразнаўцы. Аднак поўнага выдання твораў Гаруна ў БССР не было,ано толькі "Матчын дар" быў яшчэ раз перавыдадзены ў 1929 г. з уступным словам,успомненага ўжо,прафесара А.Барычэўскага.У сумныя часы"культу адзінкі" творчасць Гаруна была адстаўлена і адкінута з прычыны,як тады пісалася,яе "буржуазна-нацыяналістычнага" характару.Сёння паўстае надзея,што творы Гаруна будуць урэшце выдадзены,а ён сам займе належнае яму месца ў беларускай літаратуры.
Варта адзначыць тут яшчэ адзін факт.Магілу Гаруна адшукаў ды забяспечыў,на адным з кракаўскіх магільнікаў,два гады таму назад Алег Латышонак.У гэтым годзе спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння гэтага выдатнага беларускага паэта.

Юрка Ляшчынскі

# вершы

Яўген Вапа

Каханне

Калі цела
станецца
рэчай
перастануць іграць
званы сонных
царковак
І гэты дзядок
што свечкі
гасіць любіць
адыйдзе
забыўшыся
свайго
кахання.

Дзень заўсёды
бывае пустым
кроплі дажджу
ударающь толькі
нашыя целы
непрыкметна для
усіх
склаўшы рукі
у апошнім паклоне
чакаючы вялізарнай
буры перамен.

У цішыні
пустога неба
звініць
голас
твой
як цень
неспакойнага чалавека
Толькі крыжы
сваім уладаннем
могуць
пацешыць
вечным
супакоем.

Цягнула
Цябе
заўсёды
у пушчу
варочаўся брудны
і
злосны
Не мог
зразумець
чаму дрэвы
стаяць
адзінокімі.

П'яны музыкант
хоча ўсім
граць
кожная струна
філармонія
тэатр
трыста злотых у руку
і крык
грай вальса
курва
грай.

Адарваны кавалак
ночы
астаўся жыццём
Мар жаданне
адыходзіць з
уміраючымі
птушкамі.

Заслухаўшыся ў стукат
кол
гаварыць не
хочацца
толькі
нешта
падсказвае
пакінуць цягнік
на найбліжэйшай
супынцы

# Межы Беларусі

Аляксандра Бергман вядомая нам перад усім,як даследчык навейшай беларускай гісторыі - аўтар кніжкі пра Браніслава Тарашкевіча. Два гады таму пабачыла свет яе кніжка "Беларускія справы ў другой Рэчыпаспалітай",у якой было змешчана некалькі нарысаў пра Грамаду,КПЗБ ды біяграфіі выдатных палітычных і грамадскіх беларускіх дзеячаў.На гэтым аднак не канец.

Сустрэчы: Я чуў,што працуеце над нечым новым ?

Аляксандра Бергман: Не зусім новым,бо ўсё ж такі я не выйшла па--за межы Беларусі.Вырашыла зацікавіцца бліжэй жыдоўскімі пісьменнікамі і публіцыстамі,якія выводзяцца з Беларусі.А аказваецца, што не было іх так мала /я налічыла іх больш чым 350,хаця ў беларускім друку немагчыма знайсці інфармацыю на гэтую тэму/.Беларуская зямля,на якой выраслі,была ураддівай глебай для развіцця іх таленту.Большасць з іх нарадзілася ў малых глухіх мястэчках і вырастала ў спецыфічнай атмасферы.
У творчасці многіх,асабліва паэтаў,наглядаецца вялікі ўплыў беларускага акружэння.Нпр. Майсей Кульбак са Смаргоні,таленавіты лірык,напісаў паэму пад загалоўкам "Беларусь",а арабескі Лейб Найдуса сама не ведаю,як акрэсліць;ці гэта беларуская паэзія па-жыдоўску,ці жыдоўская пра Беларусь толькі...

Сустрэчы: У чым заключалася спецыфіка гэтых мястэчак?

Аляксандра Бергман: Большасць насельніцтва складалі там жыды і беларусы.Жыхары акружаючых беларускіх вёсак знаходзіліся ў безупынным кантакце з мястэчкам як эканамічным цэнтрам.Штодзённыя зносіны выклікалі дыфузію элементаў мовы і абычаяў,не гледзячы на герметычнасць жыдоўскай культуры.Было гэта згоднае сужыццё.

Сустрэчы: Мне асабіста,доўгі час не хапала ў беларускай літаратуры гарадскога элементу.Праўда,потым аказалася,што горад быў не зусім беларускі,але ўсё ж такі памятаю,якім захапляючым было для мяне адкрыццё таго чароўнага і крыху экзатычнага свету малых мястэчак.Здзіўляе толькі факт,што даведаўся гэтага з мастацтва/Шагаль,жыдоўская літаратура,Жыдоўскі тэатр у Варшаве/.
Сам жа выхоўваўся на вёсцы непадалёк Орлі,аднаго з такіх мястэчак,а тым часам,старэйшыя людзі якраз гэтага аспекту мінулага не пераказваюць маладым.Маладое пакаленне зусім не ўсведамляе таго. Як думаеце,чаму так дзеецца?
Не думаю,што гэта зусім у парадку,калі людзі перайшлі проста да штодзённага жыцця ,пасля тае трагедыі,калі быў знішчаны народ, культура.

Аляксандра Бергман: Чаму так? Цяжка адказаць на гэта каротка. Не забывайце,што людзі,якія добра памятаюць гэта маюць сёння па 80 - 90 гадоў і іх мала.Таксама заблытанне нашай навейшай гісторыі прычынілася да недастатковай колькасці публікацый.У апошні час,праўда,многа пішацца пра памяткі мастацтва,пра часы акупацыі,ратаванне жыдоў ігд.Але пра міжваенную і яшчэ даўнейшую рэчаіснасць публікацый амаль няма.Я добра знаю гэтую рэчаіснасць, бо глядзела на яе ўласнымі вачыма ў час маёй работы пры арганізаванні Грамады,калі як агітатар бадзялася цэлымі тыднямі па вёсках у ваколіцы Наваградка,Слоніма і Баранавіч.Быў гэта самы шчаслівы перыяд майго жыцця.

Сустрэчы: Некаторыя жыды знайшлі месца ў нашай культуры.Прыкладам можа быць класік беларускай літаратуры Змітрок Бядуля з мястэчка Пасадзец /сапраўднае прозвішча Самуіл Плавнік/.

Аляксандра Бергман: І не адзін ён,пэўна,але як дасюль ніхто сур'ёзна гэтай праблемай не зацікавіўся.Літаратураведы не вельмі імкнуцца экспанаваць гэты матыў.Здараюцца,за тое,спробы памяншэння значэння Бядулі,што зрабіў нпр. прафесар Лойка ў "Гісторыі беларускай літаратуры".Хаця ў час святкавання ў Савецкай Беларусі сотай гадавіны нараджэння пісьменніка,быў ён стаўлены ў адным радзе з Купалам і Коласам - заснавальнікамі сучаснай беларускай літаратуры і тварцамі літаратурнай мовы.

Сустрэчы:Гэта крыху дзіўнае,бо здаецца,што Бядуля толькі вывучыў беларускую мову.Яго ж роднай была жыдоўская.

Аляксандра Бергман: Вывучыў - гэта дрэннае слова.Праўда,ён не пазнаў яе ад маці,але вырастаў у ёй ад маленства.Вывучаў ён потым гебрайскую і расейскую мовы,але пісаўшы нпр. па-расейску рабіў памылкі,ужываючы беларускіх слоў.
Трэба зразумець сітуацыю,калі на адной тэрыторыі жывуць людзі,якія паслугоўваюцца рознымі мовамі.Мужык разумее жыда,жыд гаворыць па--беларуску,а ва ўстановах ужываецца расейская,потым польская мова. Мова перастае быць бар'ерам.Супольнае жыццё прымушае да інтэграцыі.

Сустрэчы: Для мяне гэта звучыць,як нейкі фенамен.

Аляксандра Бергман: Бо гэта і ёсць фенамен,а творчасць Бядулі з'яўляецца адным з яго праяваў.Прачытайце "Пяць лыжак заціркі" і тады скажаце,ці мова Бядулі "вывучаная".

Сустрэчы: Праўда.З гэтага твора я таксама вучыўся літаратурнай мовы. Дзякую за размову.

Аляксандра Бергман: Я таксама дзякую.

Інтэрв'ю ўзяў Валянцін Сельвесюк.

# Вытокі гісторыі Бельска

Ірэна Аляксеюк

Артыкул гэты паўстаў на аснове магістэрскай дысертацыі Ірэны Аляксеюк пад загалоўкам "Гісторыя праваслаўя ў Бельску на фоне гісторыі горада /XI - XУIII ст.ст./" напісанай і абароненай у 1986 годзе на Кафедры гісторыі царквы Акадэміі хрысціянскай тэалогіі ў Варшаве.
Падбор фрагментаў і пераклад зрабіла рэдакцыя.
Дзякуем аўтарцы за давераннe нам свае працы.

Ужо з найдаўнейшых часоў абшар паміж Бугам і Нарвaю завуць Падляшшам.Знаток гісторыі Літвы Язэп Ярашэвіч,прафесар Віленскага універсітэта,пісаў:"Рускія летапісы,а таксама дыпламатычныя літоўска-рускія акты,гэту зямлю не завуць Падляшшам ад таго,што пад лесам літоўскім знаходзілася,бо і сама лясістая,але ад таго,што з ляхамі мяжуецца,хаця заселеная імі ніколі не была,аднак жа ляхі рана ўжо карыстаючыся заваяваннямі,прэтэнзіі на яе заяўлялі.".
На працягу XI і XII стагоддзяў,як паказваюць археалагічныя раскопкі,абшар амаль цэлага Падляшша знайшоўся пад уплывам рускай кала-

нізацыі.Цэнтрам асадніцтва былі: Дарагічын,Бярэсця,Мельнік,Бельск,Браньск.На заходніх межах Падляшша руская каланізацыя сустрэлася з мазавецкай,у сувязі з чым узніклі Сьвецк над Брокам і Візна над Нарваю.Усходні кірунак мазавецкай каланізацыі,сутыкнуўшыся з асадніцтвам рускім,не супыняецца.Працягваецца ход на ўсход і ўзаемнае пранікание.Пацвярджае гэта наяўнасць могільнікаў двух культур далёка па-за тэрыторыяй іх першабытнага сутыкнення.
Каланізацыі руская і мазавецкая розніліся значна паміж сабою.Закладаныя рускімі князямі паселішчы засяляюцца баярскай шляхтай на феадальна-ваенным праве.
Паміж Бугам і Нарвай існавала каля 200 старажытных усходнеславянскіх гарадоў,а сярод іх таксама горад Бельск.На аснове археалагічных раскопак і знойдзенай керамікі можна вызначыць пачатак бельскага горада на канец XI - пачатак XII ст.Горад гэты знаходзіўся там, дзе па сённяшні дзень ёсць яшчэ ўзгорак,які мясцовае насельніцтва называе "лысай гарой",або "замкавай гарой".Гэты невялікі ўзгорак знаходзіўся паміж балатністымі адгалінаваннямі рэк Любкі і Белкі.
Тэрыторыя Падляшша ў XI-XII ст. уваходзіла ў састаў Кіеўскага княства.Княства гэтае ў XI ст.перажывала перыяд буйнага развіцця,пасля якога наступіў перыяд феадальнага раздрабнення.Адным з большых і найбольш высунутым на захад было Галіцка-Валынскае княства.Вяршыні сваёй магутнасці дасягае яно ў часы Рамана і яго сына Данілы,у пачатку XIII ст.
У першай палавіне XIII ст.узрасла роля Вялікага княства Літоўскага, якое пашырыла свае межы,шляхам заваявання княстваў рускіх.У I320г. Гедымін займае Бельск,Дарагічын,Мельнік,Браньск,Цехановец і далучае іх да Вялікага княства Літоўскага.Землі рускія,з пражываючым на іх праваслаўным насельніцтвам,далучаныя да Літвы,перавышалі тэрыторыю Літвы карэннай.Рускае насельніцтва складала сабою ў Княстве элемент цывілізацыйна вышэйшы.Літоўцы трапілі пад уплыў заваяванага насельніцтва,пераймаючы ад яго рэлігію,абычаі і мову.У Вялікім княстве Літоўскім афіцыйнай мовай стала старабеларуская мова.
Частыя нашэсці крыжакаў і эксплуатацыйная палітыка намеснікаў Вялікага княства Літоўскага мелі адмоўны ўплыў на развіццё горада.Бельск у XIУ і пачатку XУ ст. быў адным з самых бяднейшых гарадоў Княства. Вітаўт,жадаючы павысіць колькасць насельніцтва пачаў раздаваць гарадам прывілеі.Жыхары Бельска атрымалі адну з такіх прывілеяў,згодна з якою былі вызвалены ад абавязкаў усялякіх працаў у карысць князя на працягу пяці гадоў.Апрача таго Вітаўт зрабіў засцярогу,каб у будучыні войт дазваляў пасяляцца ў горадзе палякам,каталіцкай веры і немцам,падкрэсліваючы аднак,каб не рабіць крыўды рускаму насельніцтву /праваслаўнай веры/,з даўна пражываючаму на гэтых землях.

# Kontrasty

MIESIĘCZNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY

Колішні рэдактар "Нівы",а цяпер ужо працаўнік "Кантрастаў" Міхась Шаховіч апублікаваў у сваім новым часопісе №IO за I986 г. артыкул "Яшчэ адна насядувка". Артыкул гаворыць аб яшчэ адным пасяджанні Праўлення БГКТ.Аднак з'яўляецца яно толькі прэтэкстам для выказання больш агульных высновау.У асноўным,гаворыць ён аб ролі,якую адыгралі штатныя працаўнікі БГКТ у ліквідацыі танцавальнага калектыву "Лявоніха",Беларускага музея ў Белавежы ды занядпадзе беларускай мовы ў школах.Аўтар у вострых словах абвінавачвае іх у факце паміранння беларускасці ў Польшчы.

Не мне спрачацца з Шаховічам.На жаль,я не памятаю славутай "Лявонісі",на жаль не быў у белавежскім музеі,на жаль,толькі што радзіўся ў шасцідзесятыя гады,калі звыш дзесяці тысяч вучняў вывучала беларускую мову.Аднак не разумею аднаго.Артыкул паявіўся,за ім многа каментарыяў,не выключна ў нашым асяроддзі і толькі галоўныя героі, "засядальнікі" паседжання маўчаць.А ўжо нашыя продкі гаварылі,што маўчанне абазначае прызнанне рацыі.Дык,калі так,вы,паважаныя дзеячы прызнаецеся да таго,што забілі беларускасць у Польшчы? І не мучыць вас сумленне? Калі не,то толькі пайсці і павесіцца.
Ці сапраўды,няма ў вас аргументаў на тое каб адказаць Шаховічу? Можа аднак падумалі б крыху пра гэтых людзей,якія ў гарадах і вёсках з агромнай ахвярнасцю працуюць на беларускай ніве пад шыльдай БГКТ? Думаеце,не баляць іх словы Шаховіча? А можа вы пісаць не ўмееце? Але здаецца сярод вас ёсць,і літаратары,і дактары,і журналісты. Ці сапраўды,ніхто не можа зляпіць некалькі слоў і выказаць ваш пагляд на гэтую тэму.
І на канец яшчэ толькі некалькі слоў Шаховічу;паважаны рэдактар,не вы першыя,дадумаліся,што найвыгадней "рабіць штосьці" у сваё гняздо. Но потым...

Андрэй Сцепанюк

Здадзена ў друк перад адказам В.Лубы,апублікаванага ў "Кантрастах".

Наше слово

ORGAN ZARZĄDU GŁÓWNEGO UKRAIŃSKIEGO TOWARZYSTWA SPOŁECZNO-KULTURALNEGO

ОРГАН ГОЛОВНОГО ПРАВЛІННЯ УКРАЇНСЬКОГО СУСПІЛЬНО-КУЛЬТУРНОГО ТОВАРИСТВА

РІК XXXI № 33 (1528) ВАРШАВА, 26 ЖОВТНЯ 1986 РОКУ ЦІНА — зл. 10 zł — CENA

У 33 нумары за 26 кастрычніка 1986 г. "Нашага слова" /органу УГКТ - Украінскага грамадска-культурнага таварыства/ маглі мы прачытаць занатоўку Юркі Гаўрылюка,якая ў намеры мела быць рэцэнзіяй на эсэ Сакрата Яновіча "У Беластоцкім краі",надрукаваным у кніжцы "Экспрэс рэпарцёраў" /Варшава 1985/.На жаль,для аўтара сталася яна яшчэ аднной нагодай для выказання сваёй хваравітай ідэі "украінскага Падляшша",якая ў апошні час ахапіла жменьку моладзі з Беласточчыны. Прывядзем мо некалькі цытатаў:
"Сакрат Яновіч атассамліваючы апісваную ім Беласточчыну з тэрыторыяй Беластоцкага ваяводства не мог абмінуць і нашага Падляшша,а дакладней яго часткі,якая рассцілаецца ад Буга да паўночных берагоў сярэдняй Нарві.Заметкі пра Бельск,Дарагічын ды іншыя падляшскія мясцовасці знайшліся тут як дапаўненне асноўнай тэмы... /.../ Хочацца,каб пра Падляшша больш гаварылі аўтары "Нашага слова". Жыхары гэтага рэгіёну ўжо даўно чакаюць,калі вопытныя пёры азнаёмляць з іхнімі праблемамі ўсіх тых,хто падпісвае "Наша слова". Большасць рэдакцыі "Сустрэчаў" складаюць якраз жыхары гэтага "рэгіёна"і можам сказаць,што абсалютна не чакаем на "вопытныя пёры" "Нашага слова"а зусім наадварот;маем надзею,што рэдакцыя органу УГКТ у будучыні будзе больш развазлівa і перад публікацыяй такога тыпу правакацыйных і недарэчных інфармацый задумаецца над паслядоўнасцямі,якія могуць мець дрэнны ўплыў на беларуска-украінскія адносіны ў Польшчы.Ці не лепш,у нашым становішчы,жыць у згодзе ? Думаем,што не выражаем тут толькі пагляд рэдакцыі,а хутчэй за ўсё, пагляд большай часткі беларускіх студэнтаў.

/рэд./

# Ritual for Poland's Orthodox

## Country's Ethnic Minorities Embark on Annual Pilgrimage

cluding former Gierek, in the that Poland was fied nation, and do not report tl tional minorities cultural organi nians and Bye

Амерыканская газета "Вашынгтон поўст" за 2I жніўня I986г. змясціла даволі вялікую занатоўку Джэксона Діля,у якой аўтар дзеліцца з амерыканскім чытачом уражаннямі з побыту на гары Грабарка.Діль шырока апісвае спецыфіку гэтага паломніцтва.Цытуе таксама шмат выказванняў маладых людзей,якія прымалі ўдзел у гэтым здарэнні.
А вось некалькі выбраных намі фрагментаў:
"Фактычна пілігрымы рэпрэзэнтуюць нацыянальныя меншасці Польшчы, а іх штогодняе паломніцтва на гару Грабарку/.../з'яўляецца самай моцнай дэманстрацыяй іх культурнай своеасаблівасці,неахвотна акцэптаванай у рэшце краіны./.../
-Царква дае людзям сэнс лучнасці і гэта вельмі важнае - гаворыць Андрэй Ціханюк,малады беларус з непадалёкага гарадка Сямяцічы - гэта дае нам падставу атаесамлівацца як меншасць./.../
-Многа людзей з цэнтральнай Польшчы не ведае нават пра існаванне меншасцей - сказаў Аляксей Андрэйчук,студэнт Праваслаўнай духоўнай семінарыі ў Варшаве. - але ва ўсходняй Польшчы ёсць вёскі,у якіх меншасць з'яўляецца большасцю і ўсе,у першай чарзе,перад польскай ужываюць беларускую мову.
Самая вялікая група паломнікаў на Грабарцы,гэта беларусы./.../
-Людзі,якія прыбываюць сюды,робяць гэта для ўласнай унутранай патрэбы - сцвердзіла Маргарыта Куряновіч з Беластока /I9 гадоў/."

/рэд./

# ніка;хроніка;хроніка;хроніка;

I5-20.07.'86.

Праведзены быў рэйд "Бацькаўшчына 3".На працягу пяці дзён удзельнікі прайшлі трасу з Гайнаўкі ў Гарадок.На развітальным вогнішчы сабралася звыш I00 дзяўчат і юнакоў.Пра гэтае турыстычнае мерапрыемства шырока пісалася ў студэнцкай старонцы "Нівы" -"Прысутнасці".

I9.08.'86.

Маладая настаўніца беларускай мовы Мар'я Базылюк запрасіла студэнтаў да сябе,на хутар непадалёк вёскі Кленікі.Моладзь падрыхтавала вогнішча,пры якім спявала і гуляла да раніцы наступнага дня.Якраз на такіх спатканнях родзіцца і зацясняецца сяброўства між людзьмі.

2I.09.'86.

Славіку Міткоўскаму так спадабалася,наладжаная ім у Бельску,прошлагодняя сустрэча ў свята Нараджэння Прачыстае Дзевы Марыі,што і сёлета вырашыў адзначыць гэты дзень супольна са студэнтамі.Сустрэча ўдалася "на славу",ні ў чым не ўступала мінулагодняй.

# Бацькаўшчына'3



I5 - 20.07. - ГАЙНАЎКА-НАРАЎКА-СЕМЯНОЎКА-
-ЛУКА-МІХАЛОВА-ГАРАДОК !



У гасцях у гайнаўскім
Беларускім ліцэі




Барскі
а
Майсеня



Шлях да Беларускага музея ў Гайнаўцы




"Калісь беларусы зусім
не ведалі гарэлкі!"



Дзве самыя вялікія абжоры рэйду !





Рака Нарва спыніла нас на адпачынак

5.IO.'86.

У Беластоку на вуліцы Звежынецкай адбылася сустрэча людзей з беластоцкага і варшаўскага асяроддзяў,якія нешта робяць у студэнцкім руху.Найбольш гаварылася аб турыстыцы.Абмеркаваны быў таксама праект арганізацыі штогадовых ужо атрасін студэнтаў першага курса і іншыя парадкавыя справы.

I7-I9.IO.'86.

Адбыўся рэйд "Падарожжа 7".Вечарам I7.X.удзельнікі сустрэліся з рэдакцыяй "Нівы".I8.X.падаліся цягніком з Беластока ў Лапы,а адтуль перайшлі наднараўскімі лугамі ў Сураж.I9.X.агляну́ўшы гэты гранічны горад колішняй Русі,вярнуліся аўтобусам у Беласток.Вечарам усе пайшлі ў Беластоцкую філармонію,на канцэрт сучаснага музычнага калектыву "Дубіны".

7.II.'86.

У варшаўскім клубе БГКТ на вуліцы Сэнатарскай 8 прыяцелі выпускніцы Кафедры беларускай філалогіі Мар'і Базылюк гучна адзначылі прынятце яе ў магістры.Яна ад самага пачатку ўключылася ў беларускую студэнцкую дзейнасць,а цяпер вучыць будучых студэнтаў.Фрагменты яе магістэрскай дысертацыі пра супрацоўніка "Нашай нівы" Яўгена Хлябцэвіча,які многа пісаў аб Падляшшы,увойдуць у наш навуковы зборнік.

I4.II.'86.

Атрасіны беларускіх студэнтаў першага курса ў Беластоку сталі настолькі папулярным нашым мерапрыемствам,што не ўсе жадаючыя маглі купіць білеты,а і так сабралося амаль паўтысячы людзей.Хаця многія з іх,асабліва Беластачане,гаварылі па-польску,але факт,што з'явіліся на поўнасцю беларускай імпрэзе цешыць.Мо гэта доказ,што беларусы перайшлі этап пагоні за грашыма і цяпер патрабуюць чагосьці больш, чым толькі поўнай міскі.

2I.II.'86.

Адбыліся атрасіны ў Варшаве,што праўда,не ў такім маштабе як беластоцкія,але I50 студэнтаў /і не толькі/ гуляла таксама бойка амаль да світанку.
Пра абодва гэтыя мерапрыемствы пісалася ў снежанскай і студзенскай старонках "Прысутнасць".

I2-I3.I2.'86.

У Варшаве была арганізаваная сесія прысвечаная трыццацігоддзю існавання Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.Нех-

та ў кулуарах заўважыў,што акрэсленне "існаванне" вельмі трапнае. Хаця сам загадчык Кафедры д-р Александр Баршчэўскі не так даўно гаварыў пра дрэннае становішча гэтай навуковай установы /глядзі "Сустрэчы"4/,святкаванне яе юбілею адбывалася ў атмасферы праслаўлэння самымі сябе і аднымі другіх.Не паявілася ніводнае слова рацыянальнай крытыкі,якая была бы адлюстраваннем сённяшняй сітуацыі.Відаць на такога тыпу сесіях гэта не прынята.

14.12.'86.

Праблемам моладзі прысвяціла свой пленум Галоўнае праўленне БГКТ. На пленуме разглядаліся магчымасці актывізацыі моладзі,а што за тым ідзе,ажыўлення самога Таварыства.

У Варшаве адбыўся сход Рады культуры студэнтаў беларускай нацыянальнасці.Старшыня Пётр Багроўскі азнаёміў прысутных са зменамі структур Рады культуры.Цяпер акрамя адной,агульнаваршаўскай,маюць паўставаць яшчэ аддзельныя,пры кожнай вышэйшай установе.Ужо зарэгістравана Рада культуры пры Сельскагаспадарчай школе.Вядуцца намаганні зарэгістраваць такую ж Раду пры Варшаўскім універсітэце.
Сход таксама прыняў прапанову Юркі Ляшчынскага арганізаваць З'езд беларускага студэнцтва.Месца - Бельск,тэрмін - 27-29 сакавіка 1987г.

6.01.'87.

Студэнты,якія не маглі паехаць на Каляды /паводле старога стылю/ дадому,сабраліся ў варшаўскім клубе БГКТ,каб разам правесці куццю. Самыя наладзілі вячэру,якая багаццём перавышала святочны стол у неадным доме.Але не багатае застолле найважнейшае,а тое,што сабраўшыся ў грамаду лягчэй сцярпець тугу па сям'і.Трэба задумацца над арганізаваннем такіх вечарынак у будучыні,каб памятаць святы бацькоў,каб стварылася лучнасць з нашай малой бацькаўшчынай.

13.01.87.

У ноч перад Новым годам беластоцкія студэнты наладзілі традыцыйны беларускі "Шчодры вечар".Запрошаныя былі таксама некаторыя старэйшыя сябры моладзі,якія,аказваецца,не такія ўжо старыя і пагуляць у добрай кампаніі заўсёды ахвотныя.

17.01.'87.

Варшаўскія студэнты актыўна далучыліся да арганізацыі балю Варшаўскага аддзела БГКТ у Палацы культуры і навукі.Гэты баль праводзіцца ўжо трыццаць гадоў і стаўся адной з традыцыйных форм дзейнасці БГКТ.

# пошта













Recommandé

Рэдакцыі „Сустрэч" WARSZAWA 00 082

"Спаўнення выдавецкіх намераў,новых цікавых сустрэч і "Сустрэч",стойкасці і актыўнасці,задавальнення з Вашай дзейнасці,асабістага росту і шчасця ў прыватным жыцці жадае Вам усім

Іллірык Вараўка."

Гэта фрагмент толькі аднаго з лістаў,якія мы атрымалі за апошнія паўгода.
Усім шчыра дзякуем,і за пажаданні,і за падбадзёрваючыя словы,і за крытычныя заўвагі.Усе лісты шчыра нас цешаць - з'яўляюцца яны доказам,што нашая дзейнасць сустракаецца з зацікаўленнем людзей.
Большасць лістаў у рэдакцыю прышла з-за мяжы.Асабліва горача дзякуем чытачам з БССР.Здавалася б,што якраз там наш часопіс меў найменш шанцаў на тое,каб яго заўважылі; там і апрача яго /як жа скромнага і чыста аматарскага/ даволі беларускага друкаванага слова.Аднак,відаць,моладзі "Сустрэчы" аказаліся даспадобы.
Выклікае непакой адсутнасць лістаў ад нашых студэнтаў тут,у Польшчы. Чамусь не хочуць яны дзяліцца з рэдакцыяй сваімі заўвагамі наконт нашага <u>супольнага</u> часопіса.
Просім усіх - прысылайце нам як найбольш лістаў,у якіх змяшчалі бы Вы заўвагі адносна часопіса ды інфармацыі пра сябе.
Напамінаем таксама,што "Сустрэчы" з'яўляюцца часопісам адкрытым для усіх.Прысылайце свае артыкулы,вершы,апавяданні.Па меры магчымасці будзем іх выкарыстоўваць.




ЧАСОПІС БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ
У ПОЛЬШЧЫ

Аднадзёнка,№6,Варшава,1987г.

Нумар падрыхтавалі:
Яўген Вапа,Мікалай Ваўранюк,
Юрка Ляшчынскі,Аліна Якімюк,
Валянцін Сельвесюк /галоўны рэдактар/,Лёнік Тарасэвіч/мастак/,
Ялянта Панфілюк,Андрэй Сцепанюк.

Адрас для карэспандэнцыі: **SUSTREČY,ul.Senatorska 8,skr.pocz.244,
00-082 Warszawa,POLAND**

Byelorussian®
Star

# „Наш хлопец"



"Васіль Петручук нарадзіўся 23 жніўня 1926 г. у Грабаўцы, што ў Дубіцкай гміне. Працаваў на адказных пасадах. Узнагароджаны шматлікімі медалямі і ордэнамі. Зараз знаходзіцца на спецыяльнай пенсіі і пражывае ў Беластоку."

/ "Ніва" 3.07.1986г. стар.3 /

Сакрат & Лёнік.

Universitas zam.81/87 n.1500. K-86

# Наша ніўка




НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

**БЮДЖЭТ ВАЙНЫ**

Днямі быў прадстаўлены на разгле
не кангрэса ЗША праект федэральнага
жэта на 1988 фінансавы год. Як і па
нія галоўныя фінансавыя дакументы
га дома, цяперашні — хутчэй бюдж
ны, чым бюджэт чалавечых патрэбаў.
як у люстры, адбіліся самыя агрэсіўн
літарысцкія канцэпцыі Вашынгтона










На Беласточчыне без перамен.

Лёнік